Малюнак грузінскага мастака І. ТОІДЗЕ



# РАБОЧЫ ПАКОЙ

*Верш В. ЖАК.*

Ў пакоі рабочым
Пілуем, рэжам, точым.

Вырасьцем і самі
Станем мы майстрамі.

...кладцы—віды транспорту, Малюнак А. ТЫЧЫНЫ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 12 сьнежань 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



# ТРАНСПОРТУ—ПОЎНЫ ХОД

## 4 ГОД ПЯЦІГОДКІ ПАТРАБУЕ АД УСІХ НАС УПАРТАЙ НАПРУЖАНАЙ ПРАЦЫ

Горад пасылае ў вёску свае вырабы—розныя тавары, машыны і інш.

Вёска пасылае у горад хлеб і сыравіну для фабрык і заводаў.

Пра усё гэта ведаюць ня толькі піонэры, але і акцябраты і ўсе малыя дзеці. Ведаюць дзеці і пра тое, што перавозіць усю гэтую масу тавараў ТРАНСПОРТ—цягнікі, параходы, аўтомобілі і інш.

Транспорт, такім чынам,—адна з важнейшых галін нашай гаспадаркі.

Ад добрай работы транспорту залежыць посьпех соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

У гэтым нумары вы прачытаеце нарыс пра Урала-Кузьнецкі Комбінат. Там магутныя заводы знаходзяцца адзін ад другога вельмі далёка, а будуць працаваць як адзін комбінат. Будуць адзін другому дапамагаць — даваць матар'ялы. Гэтыя матар'ялы—руду і жалеза — будзе перавозіць транспорт. Мы будуем цэлыя новыя гарады на месцы былых стэпаў, балотаў. Будуем сотні новых заводаў.

У гэтым годзе павінны ўвайсьці ў строй 518 новых фабрык і заводаў і 1040 машынна-трактарных станцый.

У наступным 1932 годзе мы павінны закончыць першую пяці-



годку вялікага соцыялістычнага будаўніцтва — закончыць за чатыры гады

Транспорт у гэтай рабоце адыгрывае вялізарную ролю.

Але ў апошнія часы транспорт пачаў адставаць, не спраўляцца з работай, якую, даручыла яму партыя і урад.

Перабоі ў рабоце транспорту—гэта перабоі ва усёй нашай рабоце.

Партыя і ўрад паставілі перад транспортам задачу—ПЕРАБУДАВАЦЬ СВАЮ РАБОТУ ТАК, КАБ ПРАЦАВАЦЬ ВЫРАЗНА, БЕЗ ПЕРАБОЯЎ.

Кожны чыгуначнік павінен несьці вялікую адказнасьць за даручаную яму работу. Кожны вагон, паравоз павінен мець свайго гаспадара, які-б адказваў за яго работу. Народны Камісар Шляхоў Зносін т. Андрэеў выдаў загад аб перабудове работы транспорту.

Наша задача — дапамагчы бацьком і сваім старэйшым братом выканаць загад т. Андрэева.

Транспорт павінен і будзе працаваць без перабояў, з бальшавіцкімі тэмпамі.

Чацьвертая Усебеларуская мастацкая выстаўка



Пашкевіч. ПАРАВОЗ.

# ПАРАВОЗ

*Верш А. ЯКІМОВІЧА*
*Малюнак ПАШКЕВІЧА*

Суткі цэлыя няспынна
Я развожу хлеб, машыны.
Грукачу, бягу па рэйках.
З краю ў край віюцца зьмейкай
Для мяне шляхі—дарогі.
Цераз горы, цераз логі,
Цераз пушчы, праз балоты
Я лячу, лячу з ахвотай.
А як станцыю сустрэну,
Ёй прывет пашлю сырэнай:
„Тут я, тут, прывёз для вас
Шмат машынаў у колгас“.

Зноў бягуць назад вагоны
З бульбай, хлебам,
Лесам, лёнам
Цераз пушчы і балоты
Для рабочых і заводаў.
Дужы я, люблю работу,
І працую я з ахвотай.
Але толькі стаўлю ўмову:
Даглядаць мяне талкова.
Каб на суткі ня менш разу
Мяне вычысьціць і змазаць,
Каб праверыць усе рупна
Мае вінцікі і шрубкі,—
Каб здароў я быў заўсёды
І гатовы да работы.

Алесь Антонавіч



Нясвадзьба

# Увесь век на паравозе

Нарыс М. ПАЛЯМОЎСКАГА

— Гэты стары нібы з жалеза зроблены,—казаў таварышом малады качагар з паравоза. Іншыя ў такія гады на сонцы грэюцца, а ён усё яшчэ прыходзіць на работу і раней за ўсіх. Праз яго і мне прыходзіцца раней у дэпо прыходзіць.

— Але, стары яшчэ дужы,—згадзіўся з ім сьлёсар.

У гэты час увайшоў статны барадаты машыніст. Рабочыя крыкнулі яму:

— Здароў, дзядуля! Чаго прышоў гэтак рана? Заўтра раніцай табе ехаць трэба, а цяпер ноч на двары.

— Ня сьпіцца мне, хлопцы, ня сьпіцца. Ды і паравоз як сьлед агледзець трэба. Ці добра хаця яго адрамантавалі і ў дарогу падрыхтавалі.

Падышоў, пацісну ўсім рукі і палез на паравоз. Убачыў на ім качагара і ўзрадваўся:

— І ты тут. Гэта вельмі добра...

— Добра, але ня зусім, Алесь Антонавіч,—адказаў качагар.— Вам, старому, ня сьпіцца, вось і прыходзіце вы на работу ўночы замест раніцы. А я малады, мне паспаць ахвота.

— Ну, то і спаў-бы, галубок. Хто-ж табе не дае?—сказаў стары машыніст.

— Ніхто не забараняе, але неяк сорамна мне спаць, ведаючы, што вы ўжо на паравозе. Мае-ж таварышы мяне гультаём назавуць. Скажуць:—дзядуля ўсё працуе, а малады храпе...

* * *

Прыехаў нядаўна на станцыю новы машыніст. У тыя дні ўдарнікі між сабою ўмову заключылі—хто лепш будзе працаваць. Новы машыніст і кажа:

— А мне з кім-жа спаборніцтва заключыць на лепшы догляд паравоза, на меншы расход вугалю, на лепшую язду.

— Паспрабуй з дзядуляй Алесем Антонавічам,—сказалі яму.

— А добра ён работу ведае?—запытаўся новы машыніст.

---



Ударнік. Малюнак В. Лебедзева

— Ну, яшчэ-б. 60 гадоў стары на чыгунцы працуе, хлопчыкам з вёскі прышоў. Траха паўвеку машыністам езьдзіць. У яго, брат, за гэты час у руках больш паравозаў перабыло, чым ты год маеш.

— Вось яно як. А шмат гадоў старому?

— Скора восемдзесят. Ён на чыгунку прышоў у той час, калі Парыская Комуна была. Роўна шэсьцьдзесят гадоў таду назад. Але працуе ён ня горш за маладых.

— Добра, выклічу старога на спаборніцтва,—парашыў новы машыністы.

Усе сачылі з таго дня за работаю старога і маладога машыніста. Ну, і даў-жа дзед навічку клопату. У старога паравоз чысценькі заўсёды, як шкло блішчыць, і сам ён траха не заўсёды на паравозе, калі з дарогі ў дэпо вяртаецца.

— Паслухай, дзед, ты чаго-ж гэта заўсёды на паравозе сядзіш? Жывеш на ім, ці што?—запытаўся малады машыніст,

— Нешта падобнае,—адказаў Алесь Антонавіч.—Сплю я мала, ды яно і няма як цяпер спаць. Час гарачы, уся наша краіна будуецца. Кожны паравоз павінен сваю работу да канца рабіць, цягнікі ў час прыводзіць.

За сваё доўгае жыцьцё шмат каго вывучыў дзядуля паравозам кіраваць. Яго сын ужо 30 гадоў машыністам езьдзіць. І ўнук Алеся Антонавіча пяць гадоў машыністам працуе.

Ужо колькі разоў яму казалі:

— Алесь Антонавіч, кідай паравоз. Твая зьмена даўно прышла: і сын, і ўнук працуюць, а ты адпачывай. Заслужыў-жа ты сабе адпачынак, многа кілёмэтраў праехаў.

Стары нават засердаваў. Адказаў:

— Нікуды я з паравоза не пайду да канца пяцігодкі. Цяпер наша савецкая краіна будуецца, усе працаваць павінны, у каго сілы хапае. А я—стары дзябёлы. Не дарэмна ударнікам стаў. Няхай сын і ўнук працуюць, а я таксама ня сыду з паравоза. Яшчэ паглядзім, хто з нас траіх лепш паравозам кіруе.

Гэтаю вясною, 17 мая, Міхаіл Іванавіч Калінін падпісаў загад аб узнагародзе лепшага ударніка машыніста дэпо Ворша, таварыша Алеся Антонавіча Нясьвадзьбу, ордэнам працоўнага сьцягу.

Стары машыніст добра папрацаваў для свае краіны.

І савецкі ўрад узнагародзіў яго за тое, што ён паказаў усім, як трэба любіць сваю справу, як трэба працаваць.

# РАСЬЦЕ САВЕЦКАЯ КРАІНА



Там, дзе былі ў нас
Балоты, курганы—
Сёньня будуюцца
Асінстаны.



Дзе межы ляжалі
З даўняга часу —
Там мы будуем
Сёньня колгасы.

Ворагі хочуць
Пашкодзіць працы.
Будзем рашуча
З імі змагацца!





М. Лынькоў

# Апавяданьне СТАРОГА машыніста



*Урывак з твору „АНДРЭЙ ЛЯТУН“*

*Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

— Раскажы нам, дзядзька Андрэй, як ты бандытаў вазіў,— папрасілі старога машыніста маладыя чыгуначнікі.

— Ну, што-ж вазіў. Чаму і не правезьці часам...

Андрэй гаворыць, а рукой мімаволі мацае за левую кішэню замазучанай кашулі. Там у яго ў сьвяточныя дні вісіць заўсёды ордэн Чырвонага Сьцягу. У буднія дні ордэн у скрынцы, бо нязручна з ім, яшчэ ў мазуту ўпляміш, ды ці мала што каля работы. Але ўспомні толькі яму пра бандытаў, як рука па прывычцы падымаецца да левай кішэні. І сам ён увесь падцягваецца, выпроствае плечы і цярэбіць рукой выцьвіўшыя рудыя вусы.

— Так, вазіў. Усяго было, браткі, на нашым вяку. Што цяпер... Паравоз ідзе, як па маслу, у вагонах праваднікі заваліся; глядзяць, каб і блыха бяз білета не праехала. Вось, скажам, вы, рамонтшчыкі, ведаеце хваробу кожнае шпалы. Чуць зяхварэе—даёш новую, тое-ж самае і кастыль, і рэйка табе, і замок, і гайка, скажам, кожная ў вас не застарыцца. Дык самі вы... Што вам... Скажаце хіба—кепска, працаваць нельга... Ого! Вы паспрабавалі-б вось папрацаваць у дзевятнаццатым, у дваццатым, даведаліся-б пачым фунт гаек... Але што казаць! Ты-ж, Гаўрыла, ведаеш, ты-ж і тады служыў. Так. Дык ехаў я раз з пасажырскім. Былі мы ўжо на перагоне перад Ясным Лесам. Дровы былі тады, і паскудныя-ж—хоць ты сам заместа іх у топку лажыся. Сяк-так гаравалі, але з пары паравоз ня спушчалі ніколі. Маладыя каторыя, дык тыя мучыліся з дрывамі гэтымі самымі. Я-ж не маладзён.

І толькі гэта мы пераяжджаем

Крывулінскі мост, як бачу я—уперадзе агеньчык мітусіцца. І каб які-небудзь там, дык не, самы што ні на ёсьць чырвоны. Я за гудок—бачу, ня сплю—а сам сабе здагадкі раблю: чаго гэта самае, з якое прычыны? Прыцішыў ход, пад‘яжджаем. А ноч цёмная, людзей,—хоць бы чалавека убачыў, толькі і мітусіцца агеньчык, то ўніз, то ўгару. Бачу—справа сур‘ёзная, націснулі на тармазы, пад‘ехалі, сталі. І толькі гэта я галаву з вакенца высунуў—тут мне дула пад нос, а на прыступках ужо чалавекі са два і ў поўнай гэта, значыцца, амуніцыі. Ну, на амуніцыю яно мала было падобна, але ж стрэльбы там, бомбы



розныя і ўсялякія іншыя там прычындалы, усё як сьлед. Праўда, ня было мне там часу прыглядацца асабліва, бо іншым клопатам галава была забіта.

Заб'юць, думаю, да душы-ж, не памілуюць.

А па вагонах, чую, крык, калатня. Застаўся з намі на паравозе адзін вартавы толькі, усе з цягніком распраўляюцца, па вагонах шныпараць. А паравоз у мяне, як конь стаенны, дрыжыць, пад парою, чмыхае носам... Ды і ў мяне сэрца ўсхадзілася—ня стрымаць. І жаль тут узяў. Зірнуў я гэта скоса на вартавога, ат, сапляк нейкі, ды яшчэ з ліхтаром чырвоным. І злосьць мяне разабрала. І ні то, каб на сапляка гэтага, а галоўнае за тое, што погань такая ліхтар чырвоны трымае ды яшчэ табой камандуе, ні за што, ні пра што машыну ў пуці ў прастой уганяе. А вартавы гэты самы, узяўшыся за поручні і нахіліўшыся з паравоза, глядзіць усьцяж вагонаў: нецярпячка чалавеку... І ня ведаю, як тут вышла, таўхануў я

Чацьвертая Ўсебеларуская




Дзіцячы плякат. З [illegible] работы студэнтаў Віцебскага мастацкага тэхнікуму.

нагой, ды проста паміж лапатак гэтаму самаму вартавому. Заенчыў толькі, паляцеўшы потырч з прыступак. А я нагой у хрыбет, а рукой на рэгулятар, ды бяз усякага гэта, значыцца, сыгналу як таргану ўперад, ды поўны ход, ды як паехалі, ды як паляцелі—нічагусенькі ня чуваць, што там па вагонах дзеецца. Бачу—ужо і сэмафор уперадзе зялёным вокам мігае: „калі ласка, чакаем“. Сэмафор адкрыты, а я на поўным разгоне адкрыў гудок, закаціў трывогу на ўсе застаўкі.

Пакуль яшчэ пад'ехаў, пазьбягаліся ўсе. Пад'яжджаю, трублю і крычу ўжо на станцыі: браткі, бандытаў хутчэй хапайце! І што-ж вы думалі—усіх пабралі, як міленькіх. Адзін толькі і саскочыў, дый той, небарака, аб сотнік чарапянку зламаў. Бач, калі таргануў гэта я паравозам, ашаламуцеліся яны ўсе. Некаторыя лататы хацелі даць, ды пасажыры скемілі, у чым справа, ды за каўнэр, ды за зброю... Ну, а пасьля праз некалькі месяцаў мне і ордэн гэты чырвоны выдалі.

**мастацкая выстаўка**



[illegible]. ПАБУДОВА ГУТЫ.

Апавяданьне І. КАГАНОЎСКАЙ




I.

Маленькі Рэм ганарыўся сваім бацькам, рабочым заводу „Чырвоны Мэталіст". Рэм часта гаварыў:

— Мой бацька лепшы ўдарнік. Яго завод выпусьціў у гэтым годзе сельска-гаспадарчых машын у два разы больш, чым раней.

Сьмяялася над ім яго старэйшая сястра піонэрка Клара.

— Не адзін бацька ўдарнік, а ўвесь завод, вось чаму выпусьцілі больш машын.

Рэм думаў: праўда, колгасы ня могуць чакаць. Рабочыя павінны ўдарна працаваць.

Рабочы Васіль, бацька гэтых дзяцей, прышоў усхваляваны дахаты. Дома ён гаварыў:



— Баюся, што на некалькі дзён стане завод, матар'ялу не хапае.

Рэм зьдзіўлена запытаўся:

— Чаму ня можна вырабляць матар'ялу, колькі трэба?

— Усё чаму ды чаму? — казала яго сястра. Бывае, што матар'ял ёсьць, а яго трэба яшчэ па чыгунцы прывезьці.

— Так, — кажа бацька, — затрымка тут з-за транспорту.

Рэм думаў, чаму ня могуць цягнікі заўсёды вазіць?

Ён так думаў таму, што быў яшчэ маленькі.

## II.

Не ўпяршыню паравоз № 429 возіць тавары і людзей. Шмат гадоў бяжыць ён, задыхаўшыся, сьпяшаецца, каб у час прыехаць на месца. Але на гэты раз машыніст агледзеў паравоз і пакачаў галавой.

— Паравоз трэба рамантаваць!

— А грузы, а тавары? — кажуць рабочыя краіны.

Але машыніст кажа сваё.





Малюнкі ПАШКЕВІЧА

— Паравоз не павязе. Тармазы няспраўны. Кацёл трэба рамантаваць.

Ці могуць фабрыкі і заводы чакаць матар‘ялаў?

Ці можа краіна чакаць тавараў?

Не. Ня могуць. Гэта ведаюць рабочыя дэпо, куды завезьлі паравоз на рамонт. Рабочыя хутка ўзяліся за работу.

Бюро рацыяналізатараў разам з рабочымі абмеркавалі плян рамонту паравоза, працу асобных брыгад.

Работы было шмат. Але экіпажнікі, дышлавікі, плавільшчыкі і кавалі так разьмеркавалі працу, што ні адна хвіліна не прапала дарма. Паравоз у рамонце быў замест 12—**3 дні**.

Зноў пайшоў паравоз гудзець, пыхцець і развозіць тавары па ўсім СССР.

Рабочыя-ударнікі былі здаволены сваёй працай. Здаволены быў і рабочы Васіль, які казаў дома:

— Наш завод ня будзе стаяць. Ударнікі чыгункі робяць сваю справу.

Маленькі Рэм зразумеў гэта:—чыгуначнікі павінны працаваць ударна, заводы ня могуць чакаць матар‘ялаў.

А піонэрка Клара казала:

— Усё залежыць адно ад другога. Уся наша работа павінна быць ударнай.

Гарачае сьнеданьне ў школе дапамагае вучобе.

Ці наладжана ў вашай школе гарачае сьнеданьне.? Дамагайцеся таго, каб у кожнай школе былі гарачыя сьнеданьні для вучняў.





# Зьдзельшчына

*Апавяданьне УС. ШЫДЛОЎСКАГА*
*Малюнкі ДАВІДОВІЧА*

Асеньнія дні плылі, зьмяняліся адзін другім і набліжаліся да халоднай і сьнежнай зімы.

Пагода штодзень пагаршалася, рабілася больш дажджлівай, сьлізкай. А часамі і замаразкі моцна скоўвалі зямлю, пакуль не прыгравала асеньняе, нізкае сонца.

На ўзгорку, сярод шырокіх разложыстых палёў, знаходзіцца колгас „Бальшавік“. У колгасе на полі 50 гектараў нявыбранай бульбы. Але не сьпяшаліся колгасьнікі выбіраць яе. Некаторыя каля паўдня на работу выходзілі.

— Ці ты выйдзеш раней, ці пазьней,—усёроўна залічаецца дзень і плату за дзень атрымаеш, дык чаго сьпяшацца,— развážаў колгасьнік Марцін і разводзіў рукамі.

Гэтак разважалі і інш. гультаі

— Чаго сьпяшацца...

— Вунь Рыгор Давыдаў на 2 гадзіны выйдзе на працу, капане рукою зямлі, выбярэ кошык бульбы, а яму запісваюць, што ён цэлы дзень працаваў,— лаяўся Ціт, трасучы сваёй сівою барадою.

Марудна ішла праца. А дні набліжаліся да зімы. Лявонка аднойчы задумаўся:—„Чаму на працу позна выходзяць бацькі і чаму працуюць не сьпяшаючыся?“

Ён парашыў пагаварыць аб гэтым у атрадзе.

— Справа ясная, — сказаў Лявонкаў таварыш Косьцік,—

зьдзельшчына ў нашым колгасе ня ўведзена.

— А што гэта за зьдзельшчына?

— Як яе ўводзіць?—пасыпаліся Косьціку запытаньні.

Косьцік дастаў з кішэні газэту, разгарнуў і пачаў чытаць. Усе абступілі яго. Слухалі.

— Кожнаму колгасьніку вызначаецца норма, пэўная работа, якую ён павінен за дзень зрабіць. Калі хто больш зробіць, таму запісваюць у працоўную кніжку больш, а хто зробіць палавіну работы, таму запішуць палавіну працадня ў кніжцы.

— Хто больш і лепш працуе, той большую атрымае з колгасу плату, больш атрымае збожжа, бульбы...

— Ну, цяпер работа лепш пойдзе—заскакаў ад радасьці Лявонка.

— Пачакай... Яшчэ-ж зьдзельшчына ня ўведзена,—перапыніў яго Косьцік.

Лявонка падумаў.

— Хадзем да старшыні колгасу. Запытаемся аб гэтым у яго.

Гурбою выбеглі з піонэрскага клюбу і пабеглі па вуліцы да канторы. Сьвяціла сонца, дзень на дзіва быў цёплы. Такія дні рэдка пападаюцца сярод шэрых асеньніх дзён.

Прыбеглі. Зайшлі ў праўленьньне. Якраз там быў старшыня. Пісаў нешта. Калі ўвайшлі піонэры, ён абярнуўся і спытаў:

— Што хлопцы, скажэце?





*Старшыня растлумачыў пра зьдзельшчыну.*



Косьцік падышоў бліжэй.

— Таварыш старшыня, пачытайце газэту.

— А што?

— Ды вось пра зьдзельшчыну пішуць. А ў нас зьдзельшчыны няма. Таму і ў поле выходзяць позна. Таму і працуюць там дрэнна. І бульба можа застацца на полі... Зазімуе.

Старшыня паглядзеў газэту і потым сказаў.

— Праўда, хлопцы... Віна тут наша... Усё не маглі сабрацца, каб абмеркаваць гэта, брыдка нам... Але нічога. Заўтра ўраньні каля сырабойні сход правядзем. Вы абавязкова будзьце.

Вышлі з канторы задаволеныя.

— Цяпер справа пойдзе лепш,—радаваўся Лявонка.

Піонэры намалявалі на паперы лёзунг: **„Хто больш і лепш працуе—той больш і атрымае“**, і прыбілі яго каля сырабойні, дзе зьбіраюцца засёды колгасьнікі, калі ідуць на працу.

Раніцою зноў загудзеў звон над колгасам. Склікаў на працу. Юрка з Косьцікам і астатнія піонэры прышлі першымі. А праз гадзіну сабраліся мужчыны і кабеты.

Старшыня сказаў, каб не разыходзіліся. Будзе сход.



*І на полі закіпела работа.*

— Нешта, мусіць, новае выдумаў,—пракаціўся гоман сярод колгасьнікаў.

Старшыня растлумачыў пра зьдзельшчыну. Кожнаму будзе дадзена заданьне, якое ён павінен зрабіць за дзень. Вылучылі брыгадзіраў, якія будуць сачыць за тым, як будзе выконвацца работа і адзначаць у працоўнай кніжцы працадні.

Калі загаварыў старшыня пра зьдзельшчыну, дык выскачыў наперад Рыгор Давыдаў і пачаў крычаць:

— Навошта тая зьдзельшчына, якая з яе карысьць? Цяпер ніхто працаваць ня пойдзе, вось што.

— Зьдзельшчына не дае

гультаяваць, дык табе не падабаецца,—крыкнуў Марцін, махаючы рукамі.—Ты прывык толькі на баку ляжаць.

Старшыня гаварыў далей:

— Дрэнная праца ў колгасе— на руку кулакам. І яны агітуюць супроць зьдзельшчыны, бо зьдзельшчына ўзмацняе колгасы. Рыгор гаварыў кулацкім языком. Ён ня хоча зьдзельшчыны, ня хоча, каб колгас быў моцным, каб работа была палепшана. А хіба бульба павінна зімаваць на полі? Хіба можна так працаваць, як у нас працуюць?..

Доўга спрачаліся, гаварылі і ўрэшце пастанавілі: усю работу ў колгасе перавесьці на зьдзельшчыну. Гуртам пайшлі ў поле.

Кожнаму колгасьніку быў адведзены кавалак поля, на якім ён павінен за дзень выбраць бульбу. І закіпела работа. Кожны сьпяшаўся перавыканаць заданьне.

А бульба прыветліва паглядала з разораных радоў, падхоплівалася спрытна рукамі з зямлі і ляцела ў кошыкі.

Пасьля сходу старшыня паклікаў да сябе піонэраў і сказаў.

— Для вас, хлопцы, работа ёсьць. Трэба выпісаць кожнаму колгасьніку працоўную кніжку.

— Мы гэта гуртам ураз зробім—прагаварыў Лявонка.

Старшыня павёў іх у кантору, даў сьпіс колгасьнікаў і працоўныя кніжкі, каб выпісалі кожнаму, хто працуе.

За гадзіну зрабілі гэтую работу хлопцы.

А ўвечары кожнаму колгасьніку далі працоўную кніжку, у якой брыгадзір адзначаў, колькі хто зрабіў. Марціну запісаў два працадні, бо перавыканаў сваё заданьне. А Рыгору Давыдаву толькі палавіну працадня, бо гультаяваў ён, многа гаварыў у час работы і заданьня ня выканаў.

Праз тыдзень бульбу ўсю выбралі. Не засталося на полі нічога.



Нарыс Я. МАУРА

# Урала-Кузбас

**„Нам ужо не хапае украінскага вугалю і мэталю, ня гледзячы на рост іх вытворчасьці. Мы павінны стварыць новую вугальную мэталюргічную базу— Урала-Кузбас“.**

*І. Сталін.*



*Генэральны сэкратар ЦК УсеКП(б) тав. СТАЛІН.*

На Урале шмат жалеза. Ёсьць нават жалезная гара—Магнітная. Але яна не распрацоўвалася. Бо вугалю няма. Ды і шляхоў няма. І вады малавата. Ды і наогул мясцовасьць голая, пустынная. Клімат суровы. Гарадоў, людзей няма. Хто мог адважыцца пачынаць тут будаўніцтва? І ЛЕТАСЬ было таксама, як сотні гадоў назад.

А СЁЛЕТА—тут горад Магнітагорск, у якім жыве 150 тысяч чалавек.

А за 2000 кілёмэтраў, у Сібіры, каля гораду Кузьнецку,—вялікія запасы каменнага вугалю. У 5 разоў больш, як у Донбасе. Дзесятая частка запасу ўсяго сьвету. Але як яго скарыстаць, калі фабрык і заводаў у Сібіры мала, калі так далёка закінуты гэты Кузбас, калі ўвесь гэты край дзікі? Жалеза няма. Шляхоў няма. Клімат суровы. Людзей мала. У старых шахтах ЛЕТАСЬ працавала некалькі соцень рабочых.

А СЁЛЕТА—там жыве 100 тысяч народу.

Ляжала без карысьці жалеза на Урале. Ляжаў без карысьці вугаль у Кузбасе. Хто мог адважыцца перарабляць прыроду, адразу забраць багацьці? І ў Англіі, і ў Германіі, і ў Амэрыцы, у сярэдзіне краіны, сярод густога насельніцтва, паступова, на працягу 20—40—60 гадоў крок за крокам заваёў-

валі вугаль і жалеза. Сёлета правядуць дарогу, на другі год выкапаюць новую шахту, на трэці пабудуюць завод, на чацьверты яго дабудуюць! А ў нас прышлі бальшавікі-рабочыя і за АДЗІН ГОД аўладалі прыродай.

Гэта таму, што нам чакаць нельга, мы адсталі, і нам трэба дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны. Таму, што мы працуем не на капіталістаў, а на сябе. Таму, што мы ведаем, куды ідзем, чаго дамагаемся, за што змагаемся. І таму, што арганізаваны шматмільённы пролетарыят, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, можа ўсё зрабіць, што толькі захоча.

## Што мы будзем мець ад гэтага?

Мы злучым самыя вялікія запасы жалеза з самымі вялікімі запасамі вугалю. Мы зьнішчым гэтыя 2000 кілёмэтраў. Бязупынна пацячэ вугаль з Кузбасу на Урал, а з Уралу ў Кузбас— жалезная руда. Будзе нібы адзін завод, УКК,—Урала-Кузьнецкі Комбінат. Ён адзін дасьць нам столькі жалеза, колькі раней давалі ўсе заводы вялізнай Расійскай імпэрыі. Ёсьць толькі адзін завод на сьвеце (у Амэрыцы), які яшчэ застаецца большым за Магнітагорскі. А Кузьнецкі вугаль, апрача апалу электрастанцый і коксу для вырабу жалеза, дасьць яшчэ асфальт, усялякія фарбы, газы, нафталін, карболку, асьпірын, нашатырны сьпірт, сахарын і яшчэ, прынамсі, сотню падобных рэчаў.

Каб нагрузіць вагоны цэглай, патрэбнай для УКК, дык склаўся-б цягнік, даўжынёю ад Менску да Масквы. Пры пабудове Кузьнецкага заводу выкапана столькі зямлі, што падводы з ёю занялі-б 5.000 кілёмэтраў. Кожны дзень патрабуецца 2000 вагонаў жалеза, дрэва, машын і іншых матэр'ялаў.



*На пабудове МАГНІТАГОРСКУ.*

. На пабудовах працуе 80.000 рабочых. Кузьнецкая (Кемэраўская) электрастанцыя будзе такая самая, як Днепрабуд.

**Такога будаўніцтва сьвет яшчэ ня бачыў.**

Прыемна нам усё гэта падлічваць і нецярпліва чакаць, калі ўсё гэта будаўніцтва будзе скончана. Пакуль надрукуюцца гэтыя радкі, мы ўжо будзем чытаць у газэтах: электрастанцыя скончана... першыя Домны пачалі працаваць... уступіла ў строй яшчэ адна Домна... яшчэ... яшчэ адзін завод... другі...

А ці кожны з нас добра падумае, як гэта робіцца, як дасягаюцца такія посьпехі?

Каб пабудаваць такія прадпрыемствы за паўтара гады, трэба працаваць і ўлетку і ўзімку, і дзень і ноч, ды як яшчэ працаваць!

Зараз там 40 градусаў марозу. Вятры дзьмуць сухія, халодныя. Выйсьці на двор нельга, а тут трэба лезьці высока, мураваць... Цэгла пячэ рукі... Бэтон, гліна, вапна замярзае. Трэба яе ўвесь час пацаграваць. Ня лепш і тым, хто капае мёрзлую зямлю, хто кляпае жалеза, хто возіць, носіць, падае.



Вось адзін, другі кажа: а ну яго! гэтак немагчыма вытрымаць!

Вось адзін, другі кідае працу, зьбіраецца ўцякаць дадому, у цёплую хату.

Але сотні, тысячы ўдарнікаў працуюць упарта, аддана. Не глядзяць на гадзіны, на выходныя дні. Здараецца, што двое, трое сутак рабочыя самі не адыходзяць ад працы.

Бо яны ведаюць, што вось гэтую іхнюю работу абавязкова трэба скончыць цяпер, бо інача на суседнім вучастку будзе прастой. І ўсю іхнюю пабудову трэба скончыць у вызначаны час, бо іначай суседняя пабудова затрымаецца.

Нават чужаземныя рабочыя і інжынэры захапляюцца такой працай. І сорамна робіцца тым, хто зьбіраўся ўцякаць. І ўсё менш і менш знаходзіцца дэзэртыраў.

А ў гэты самы час на іншых заводах СССР рыхтуюць мат'ялы, машыны для тых, хто там на фронце. Працуюць так-

сама ўдарна, бо іначай там затрымаецца пабудова. Усе іншыя працоўныя таксама дапамагаюць гэтым заводам выканаць заданьне. Нават, калі мы шлем бульбу Ленінградзкім заводам, што выконваюць заказы для Магнітагорску, мы таксама прымаем удзел у гэтай справе. І калі дзеці дапамагаюць бацьком у агульна-карыснай працы, яны таксама зьяўляюцца ўдзельнікамі будаўніцтва.

Вось чаму ў Савецкім Саюзе магчымы такія „цуды“, як пабудова УКК за паўтара гады.

А ўсьлед за гэтым у Навасібірску будзе пабудаваны другі завод, падобны да Магнітагорскага. На сібірскай рацэ Ангары ўжо прыступаюць да пабудовы электрастанцыі, якая будзе раўняцца ВАСЬМІ Днепрабудам. Кузбас будзе ўвесь час пашырацца і праз пяць гадоў дасьць вугалю ў два разы больш, як цяпер увесь Саюз. А на Урале будзе пабудованы электразавод, на якім адных толькі інжынэраў і тэхнікаў будзе 12.500 чалавек. Там-жа будуецца завод, які кожны дзень будзе выпускаць 2½ кілёмэтра вагонаў.

Хутка, вельмі хутка, мы ўбачым такія „цуды“, якія нікому нават ня сьніліся.

Але ўвесь час будзем памятаць, што само яно ня зробіцца, што прымаць удзел у гэтым павінны ўсе, ад старых да малых.



## Мы заключылі дагавор з бацькамі

**Акцябраты базы „Чырвоны харчавік“ (г. Бабруйск) ГЛОЎБЭРМАН РЫВА і ЛЯНДА ЛЮБА заключылі з сваімі бацькамі дагавор на акуратную і лепшую работу.**

### МЫ БЯРОМ НА СЯБЕ АБАВЯЗКІ:

**1. Добра вучыцца.**

**2. Ня дурэць на занятках.**

**2. Выпісваць і чытаць піонэрскія газэты і часопісі для акцябрат.**

**4. Да 1-га студзеня выплаціць пазыку.**

**5. Запісацца і працаваць у добраахвотных таварыствах.**

**6. Не спазьняцца ў школу і не рабіць прагулаў.**

### ПАТРАБУЕМ АД БАЦЬКОЎ:

**1. Выканаць на фабрыцы свой прамфінплян.**

**2. Падпісацца на пазыку „3-ці рашаючы“ на месячны заработак.**

**3. Не спазьняцца на работу і не рабіць прагулаў.**

**Бацькі на такі дагавор згадзіліся.**

Акцябраты: { **Глоўбэрман Р.**
**Лянда Л.**

# ПАДУМАЙ

## Загадкі

1. Поўна бочка круп, а наверсе струп.

2. Вісіць сіта, ня рукамі зьвіта.

3. Ляціць сьвішча, усё калыша, усе дрэвы калыхае, а ну—хто адгадае?

4. Колькі на сасьне яловых шышак?

Б. Хомчанка.

## Загадка

Імчаліся птушкі з чырвонай сталіцы, селі птушкі на гострыя сьпіцы. Селі і засьпявалі цікава, улад. Хто ня пройдзе—паслухаць рад.

Р. Зайцаў.

## Задача літар

ВА—А
КО—Ь
ПЛ—Н
РЭ—А
МО—А
КР—Т

Падставіць літары ў гэтых словах так, каб зьверху ўніз можна было прачытаць назву ракі Украіны.

## Задача—жарт

Звычайная запалка мае каля 5 сантымэтраў даўжыні. А ці можна з 13 запалак скласьці роўна мэтр?

## Загадка

Што наадварот і ня круглы год кверху коранем над намі расьце?

*Усе загадкі і задачы, што зьмешчаны ў гэтым нумары, мы атрымалі ад чытачоў.*

*Дзеці! Шлеце больш матар'ялу для гэтай старонкі.*

## ДЗЕЦІ!

Пішэце і шлеце ў рэдакцыю свае дopісы, нарысы, апавяданьні аб тым, што новага будуецца ў вашай мясцовасьці,—якія заводы, фабрыкі, клюбы, бальніцы і інш. Якое значэньне будуць мець гэтыя пабудовы для вашай мясцовасьці?

Калі можаце, нарысуйце вашу новую пабудову і разам з допісам прышлеце.

Пішэце аб тым, як працуюць і ўмацоўваюцца калгасы. Што вы робіце ў колгасах? Ці дапамагаеце вы даглядаць цялят, курэй, парасят і інш. у колгасе? Ці ўсе вашы бацькі перайшлі на зьдзельшчыну? Як пашырана ўдарніцтва ў колгасе?

Пішэце, як умееце. Рэдакцыя вашы заметкі выправіць і надрукуе ў часопісі. Потым іх прачытаюць усе дзеці.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: УЛ. ШПІЦЭР. А. ЯКІМОВІЧ.

# ТЫ ЯШЧЭ НЯ ВЕДАЕШ АБ ТЫМ, ШТО...

## з 1-га СТУДЗЕНЯ 1932 г.

ЧАСОПІСЬ

# „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“

БУДЗЕ ВЫДАВАЦЦА

## 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

Часопісь значна пашырае свае разьдзелы, уводзіць новыя сталыя куткі (што можна зрабіць самому, дапісы, малюнкі і творчасьць саміх чытачоў, цікавыя апавяданьні і малюнкі з жыцьця прыроды і інш.).

Часопісь „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ ў гэтым годзе будзе друкаваць для сваіх падпісчыкаў ДАРМОВЫЯ ДАДАТКІ: розныя гульні, плякаты, п'ескі, песьні.

**УСЕ ДЗЕЦІ ПАВІННЫ ВЫПІСВАЦЬ І ЧЫТАЦЬ СВАЮ ЧАСОПІСЬ „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“**

**НАСТАЎНІКІ! БАЦЬКІ!** Ваша задача: дапамагчы дзецям набыць на ўвесь 1932 год багата ілюстраваную, карысную і цікавую часопісь „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“

## УМОВЫ ПАДПІСКІ

| | |
|---|---|
| На 3 месяцы | — 90 к. |
| На 6 „ | 1 р. 80 к. |
| На 1 год | 3 р. 60 к. |

**ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ ТОЛЬКІ НА ПОШТУ ЦІ ЛІСТАНОСЦАМ**

24 НУМАРЫ ЧАСОПІСІ „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ БУДЗЕ НАДРУКАВАНА Ў 1932 ГОДЗЕ

СЬПЯШАЙЦЕСЯ СВАЕЧАСОВА ЗДАЦЬ ПАДПІСКУ НА „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2386 7.100 экз. Упаўнаваж. Галоўлітбелу № А—3063.

